Просто хорошая газета

# Отдушина

12+

ГАЗЕТА РЕКЛАМНАЯ ДЛЯ ДОСУГА

№13 (812) 25 марта 2020 года

Издатель УП «Газета Слонимская» Основана 18 октября 2002 года Выходит один раз в неделю

КУЛЬТУРА

# Скарб, якім багаты Слонім

**Тэрытарыяльна і па колькасці насельніцтва Слонім адносна невялікі горад. Тым не менш у самым яго цэнтры ёсць адметнае месца, якое вылучае горад сярод іншых — драматычны тэатр. Сёлета ён адзначае сваё 30-годдзе.**




КАЛАЖ «ГС»

Сцэна са спектакля «Тарас на Парнасе» ў пастаноўцы Слонімскага драматычнага тэатра

Прыгадаем самыя цікавыя факты з гісторыі развіцця тэатральнага мастацтва ў Слоніме.

Зараджэнне тэатральнага жыцця на Слонімшчыне пачалося ў XVIII стагоддзі. У 1744-1769 гадах пры езуіцкім калегіуме ўжо існаваў школьны тэатр. Паказы прымяркоўваліся ў асноўным да царкоўных свят, постаў (масленічная драма «Імгненне няшчаснай вечнасці» Ф. Навадворскага) і да завяршэння навучальнага года.

Спектаклі ладзіліся на лацінскай, у рэдкіх выпадках на польскай мове. Галоўныя ролі ў пастаноўках, якія пісалі выкладчыкі калегіума, выконвалі самі выкладчыкі. Аднак некаторыя ролі давяралі выканаць і навучэнцам. Перавагу аддавалі драмам на рэлігійныя, міфалагічныя, а таксама гістарычныя сюжэты.

### Тэатр Міхала Казіміра Агінскага

Будаўніцтва асобнага тэатральнага памяшкання належыць Міхалу Казіміру Агінскаму. Пасля няўдалага супрацьстаяння рускім войскам царскай Расіі ў Барскай канфедэрацыі гетман Вялікага княства Літоўскага вымушаны быў падацца на ўцёкі. Вярнуўшыся праз нейкі час на Бацькаўшчыну (пасля 1774 года), ён вырашае пабудаваць тэатр. Для ажыццяўлення задумы Агінскі запрашае ў Слонім італьянскага дэкаратара Іначэнца Марайна. Апошні прапанаваў рэканструяваць колішні палац Льва Сапегі. Праца па будаўніцтве так званага Operhaus была завершана праз тры гады, у 1777 годзе. Сцэна тэатра была падзелена на дзве часткі, прычым заднюю можна было запоўніць вадой і «вывесці» на сцэну сапраўдныя караблі. Адначасова ў глядацкай зале маглі змяшчацца да 2000 чалавек.

Трупа тэатра была інтэрнацыянальнай. Выступаць у яе складзе лічылі за гонар многія сусветныя артысты. Заможныя слонімцы маглі на спектаклях пабачыць прафесійных італьянскіх, нямецкіх, польскіх спевакоў, выдатных прадстаўнікоў мясцовага беларускага хору і балету. Тэатр Агінскага меў 60 опер, 18 балетаў, 3 музычныя камедыі, 253 сімфоніі і больш за 460 іншых музычных твораў, у складзе якіх былі араторыі, арыі, музыка для дывертысментаў, асобных танцаў і інш. («Інвентар інструментаў і музычных папер», 1801 год).

Пры тэатры дзейнічала балетная школа, якая сур'ёзна канкуравала з каралеўскім тэатрам у Варшаве. Першапачаткова ў ёй атрымлівалі адукацыю дзеці прыдворных музыкантаў, пазней такую магчымасць мелі таксама дзеці прыгонных сялян. Таленавітыя вучні выступалі за мяжой, што дадавала прэстыж школе. У рэпертуары быў «Каралеўскі балет», «Балет млынароў», «Дзікі балет» і «Дэзерцір» (апошнія два, дарэчы, былі паказаны ў 1790-1791 гадах на гастролях у горадзе Дубна (Украіна). Напрыканцы 1792 года школу перавялі ў філіял слонімскага тэатра, які змяшчаўся ў Целяханах Івацэвіцкага раёна. Былая слава згасала. Сам Operhaus быў разбураны пасля 1804 года.

### Народны дом

Будынак на плошчы Леніна быў пабудаваны ў 1900 годзе з цэглы. Названы ён быў проста — Народны дом. Тут праходзілі розныя мерапрыемствы — сустрэчы, фэсты, канцэрты. Напрыканцы 1918 года ў Народным доме прайшоў Першы з'езд Саветаў рабочых і сялянскіх дэпутатаў Слонімскага павета. У свой час на яго сцэне выступалі знакаміты Фёдар Шаляпін і легендарная Галіна Вішнеўская.

З 1941 па 1945 год Народны дом называўся Беларускім Народным домам. У гады Другой сусветнай вайны правядзенне культурных імпрэзаў не перапынялася. Падчас акупацыі ў Слоніме працаваў беларускі драматычны гурток (кіраваў І.Чуркін), а пры краязнаўчым музеі паэт Сяргей Новік-Пяюн стварыў маладзёжны драматычны гурток. Абодва актыўна выступалі.

### Слонімскі народны тэатр

П'есу «Шляхі-дарогі» А. Фёдарава тэатральны калектыў паказваў 32 разы. Гэта быў першы спектакль пры Слонімскім РДК. Паказ адбыўся ў 1948 годзе. Тэатральны калектыў узначаліў Міхаіл Фрыдман, а танцавальным гуртком кіраваў 27-гадовы Аляксандр Бялоў, які дэмабілізаваўся з арміі. За спектакль «Апошнія» калектыў Слонімскага народнага тэатра, рэжысёр Міхаіл Фрыдман і артыстка Вольга Галіна былі адзначаны падзякай Міністэрства культуры БССР.

Слава слонімскага народнага тэатра дайшла нават да ЗША. У адным з нумароў спектакль «Ганна» па п'есе Уладзіслава Галубка (рэжысёр Мікалай Варвашэвіч (1934-2001), кіраваў тэатрам з 1968 па 2000 год) згадвае беларускі эміграцыйны часопіс «Баявая Ўскалось», які выдаваўся ў Канадзе. Часопіс змяшчае здымак «Ганкі» з тэкстам. Пастаноўку ў 1972 годзе двойчы паказваюць па тэлебачанні.

Па колькасці выступленняў Слонімскі народны тэатр у 1973 годзе выходзіць на першае месца. У Беларусі на той час дзейнічае 49 народных тэатраў.

Звяртацца да творчасці маладых беларускіх драматургаў пачалі ў 1987 годзе. Першы спектакль быў па п'есе Уладзіміра Саўліча «Халімон камандуе парадам». Паводле сюжэту двое сялян — Халімон і Куліна Капытка — вырасцілі на сваім падворку самага вялікага ў вобласці парсюка. Каб даведацца іх вопыт гадоўлі свіней, у вёску прыязджае здымачная група з абласнога тэлебачання. Калі ж карэспандэнты даведваюцца, што гаспадары кармілі хлебам і малаком свайго гадаванца, рэпартаж умомант спыняецца. Між тым у савецкі час так і кармілі сваю жывёлу.

Слонімскі народны тэатр стаў першым у Беларусі эксперыментальным тэатрам-студыяй на поўным гаспадарчым разліку — тэатр сам сябе мог акупляць і плаціць заробкі артыстам. Адбылося гэта ў 1987 годзе. Яшчэ праз тры гады, у першы дзень новага, 1990 года загадам Міністэрства культуры на базе тэатра-студыі створаны дзяржаўны Слонімскі беларускі драматычны тэатр. У 2005 годзе назву скарацілі і ён стаў Слонімскім драматычным тэатрам.

Самая моцная і масавая пастаноўка ў гісторыі Беларускага тэатра была пастаўлена на сцэне Слонімскага народнага драматычнага тэатра — «Папараць-кветка». Яна прысвечана тэме барацьбы беларускага народа за сваё нацыянальнае і сацыялістычнае разняволенне. Паказ адбыўся ў 1976 годзе, уяўляў сабой драму ў трох актах і пяці карцінах з пралогам. У пастаноўцы ўдзельнічала 50 артыстаў народнага тэатра. Спектакль быў высока ацэнены на многіх фестывалях. Вялікі залаты медаль атрымаў калектыў Слонімскага народнага драматычнага тэатра, а кожны з артыстаў — дыплом за імпрэзу на Усебеларускім фестывалі самадзейнай мастацкай творчасці ў Мінску.

ПРАЦЯГ НА С. 2 «АДДУШЫНЫ»

КУЛЬТУРА

# Скарб, якім багаты Слонім



Сцэна спектакля «Тарас на Парнасе»

ПАЧАТАК НА С. 1 «АДДУШЫНЫ»

## У новым будынку

Адкрыццё новага будынка драматычнага тэатра адбылося 29 сакавіка 2014 года. Тагачасны старшыня Слонімскага райвыканкама Алег Таргонскі і начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама Павел Скрабко перарэзалі чырвоную стужку і ўручылі ключ дырэктару тэатра Мікалаю Лішыку.

Глядацкая зала новага тэатра разлічана на 196 асоб. Паняшканне ўпрыгожваюць чатыры крыштальныя люстры. Заслона, сядзенні, шторы выкананы ў сінім колеры. У дзень адкрыцця новага будынка слонімцам прапанавалі спектакль па п`есе Янкі Купалы «Паўлінка», які паставіў рэжысёр тэатра Васіль Сявец.

У траўні на новы будынак драматычнага тэатра павесілі мемарыяльную дошку з барэльефам гетмана Вялікага княства Літоўскага і мецэната Казіміра Агінскага. Яе аўтарам з`яўляецца слонімскі скульптар Леанід Богдан. Падчас яе адкрыцця прысутнічаў сам скульптар, дырэктар тэатра Мікалай Лішык, старшыня Слонімскага райвыканкама Алег Таргонскі, а таксама члены Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам міністра адукацыі Беларусі Сяргея Маскевіча.

А ў снежні таго ж года адбылося адкрыццё памятнага знака каля драматычнага тэатра. Ён быў усталяваны ў гонар адкрыцця новага будынка, а зрабіла яго мясцовая фірма «ГранВІ».

У пяцігоддзе свайго існавання (1995 год) тэатр налічваў 15 артыстаў (восем жанчын і сем мужчын). Запаўняльнасць глядзельнай залы на стацыянары складала вечарам — 86%, днём — 97%. У 2018 годзе працавала 15 артыстаў, а сёння ў тэатры працуе ўсяго 12 артыстаў (з іх 8 жанчын і 4 мужчыны). Творчым калектывам кіруе з 2008 года галоўны рэжысёр тэатра Васіль Сявец.

Штогод рэпертуар тэатра папаўняецца на чатыры новыя пастаноўкі. На 65% рэпертуар дзіцячы. Кошт квіткоў на дзіцячы сеанс — 4 рублі, а на дарослы — 6 рублёў. Летась артысты Слонімскага драматычнага тэатра паказалі 365 спектакляў для 25,5 тысяч гледачоў. Практыкуюцца выязныя паказы ў раённыя цэнтры Гродзенскай, Брэсцкай і Мінскай абласцей. Акрамя казачных пастановак, у рэпертуары ёсць камедыі, п`есы класічнай і сучаснай драматургіі.

**Максім СУДЗІЛОЎСКІ**

# Пазнай сябе на фота

**Паважаныя чытачы! Пазнавайце на старых фотаздымках сябе, сваіх знаёмых і блізкіх і тэлефануйце нам: 8 (01562) 29-999, 8 (029) 133-04-21 у працоўныя дні з 9:30 да 17:30. Найбольш цікавыя расповеды пра героя здымкаў будуць надрукаваны ў газеце, а іх аўтары атрымаюць запрашальныя квіткі на спектаклі Слонімскага драматычнага тэатра.**



ФОТА З АРХІВА ЧЫТАЧА

Педагогі Слонімскай санаторна-лясной школы-інтэрната, 1968 год

На фотаздымак рыбака, надрукаваны ў мінулым нумары «Аддушыны», адгукнуўся наш сталы чытач Уладзімір Рабцэвіч.

— Я думаю, што рыбак на здымку — гэта Анатоль Несцяровіч, слонімскі фатограф, які працуе ў будынку былога быткамбіната, — расказаў Уладзімір Лявонцьевіч.

Таксама патэлефанавала ў рэдакцыю Валянціна Аляксандраўна Кашко, якая на фотаздымку камсамольскіх актывістаў пазнала свайго мужа Мікалая Іванавіча Кашко.

— Першы справа пад вусікамі ў чорнай куртцы — гэта мой муж. Ён працаваў на льнозаводзе, быў сакратаром камсамольскай арганізацыі. Ужо 13 гадоў яго няма сярод жывых. Памёр у 50 гадоў. Мы з ім пражылі разам 25 гадоў, — распавяла Валянціна Аляксандраўна.

Нашы чытачы Мікалай Лысуха, Ніна Іванова, Уладзімір Рабцэвіч і Валянціна Кашко атрымаюць запрашальныя квіткі на прадстаўленне з нагоды 30-годдзя Слонімскага дзяржаўнага драмтэатра «З юбілеем, наш любы тэатр», якое пакажуць у нядзелю, 29 сакавіка. Пачатак у 17.00.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ФУТБОЛ. ПЕРВАЯ ЛИГА

# ФК «Слоним 2017» с дзержинским «Арсеналом» сыграл вничью

**В субботу, 21 марта, ФК «Слоним 2017» в товарищеском матче сыграл вничью с «Арсеналом» из Дзержинска.**


ФОТО ИЗ АРХИВА «ГС»

**«Арсенал» (Дзержинск) — «Слоним 2017» — 1:1 (0:1)**

**ФК «Слоним 2017»:** Напорко (Шишлов), Лозко, Ровбут, Казаков (ИНП), Чудук (Кильманов), Орлов (Баль), Силинский (Чернодаров), Гузов (Курышев), ИНП, Корзун (Кошель), ИНП (Влад. Берг).

**Голы:** 0:1 — Лозко (38), Кийко (80).

Матч проходил на искусственном поле СОК «Веста». Встречались с хорошо укомплектованным новичком первой лиги.

В первом тайме хорошо смотрелась слонимская команда, и гол стал логическим завершением усилий наших игроков. Мяч в ворота соперника забил защитник ФК «Слоним 2017» Алексей Лозко после розыгрыша углового.

Во втором тайме после ряда замен с обеих сторон инициатива перешла к футболистам из Дзержинска. Им удалось сравнять счёт в конце матча. Правда, не без помощи слонимского защитника, отдавшего голевой пас нападающему «Арсенала».

31 марта планируется ответная встреча ФК «Слоним 2017» с дзержинским «Арсеналом» на стадионе Слонимского УМГ.

**Сергей БУЗУН**

МИНИ-ФУТБОЛ

# СЛОНИМСКИЙ «ФОРСАЖ» ПРОИГРАЛ В ОТВЕТНОМ МАТЧЕ В ЛИДЕ



**В субботу, 21 марта, в ответном финальном матче первенства Гродненской области по мини-футболу слонимский «Форсаж» проиграл в Лиде.**

**МФК «Электросети» (Лида) — МФК «Форсаж» (Слоним) — 10:3 (6:0)**

**Голы:** Зубко (10), Кандратович (12,67,68), Синицкий (15), Сморчков (24,33), Петрушевский (26), Жебрик (47), Таранда (49) — Молчанов (46), Берг Вик. (60), Спасюк (69).

После победы дома в ответном матче слонимским футболистам не удалось сдержать атакующие порывы лидской команды. Окончательный результат и счёт после первого тайма красноречиво говорит о преимуществе лидчан в данном футбольном поединке.

Теперь в третьей решающей игре на нейтральной площадке определится чемпион Гродненской области по мини-футболу.

**Сергей БУЗУН**

ФОТО ИЗ АРХИВА «ГС»

# «АтрисСервис»: с уважением к Вам, с

**В настоящее время трудно представить нашу жизнь без автомобиля. От их нынешнего разнообразия просто разбегаются глаза.**



Конечно же, автомобиль, как и любая другая техника, выходит из строя.

Соответственно, машине нужен ремонт, и тогда почти каждый автовладелец обращается на станцию технического обслуживания.

Владелец ЧСУП «АтрисСервис» Иван Романович отмечает: «К выбору автосервиса надо подходить ответственно и не экономить на своем железном коне. Хороший центр технического обслуживания является залогом комфортной, безопасной и долгой эксплуатации машины. Основная цель нашей компании — поддержка авто в рабочем состоянии и максимальное сохранение службы личного транспортного средства. На сегодняшний день сервис заработал себе репутацию истинных профессионалов, влюбленных в свое дело. А за успехом стоит, в первую очередь, колоссальный труд всех членов команды.

Почти 12 лет назад мы с супругой Еленой открыли свой бизнес.

Елена не только мама наши двоих деток, но и мой лучший друг и «боевая подруга».

У нее музыкальное и педагогическое образование, и Елена всегда для меня надежная поддержка и опора! Более того, как настоящий профессионал разбирается во многих аспектах бизнеса.

Сейчас в команде «АтрисСервиса» 20 человек.

Хочется отметить людей, которые с момента открытия с нами.

Это — Сергей Романович, Александр Герман, наш финансовый гений главный бухгалтер Екатерина Подкович.

Да, наша команда — это в том числе и семейный бизнес: мой отец трудится мастером, отец Елены — инженер по ТБ, ее брат занимается ремонтом стартеров и генераторов.

Для всех наших сотрудников мы систематически проводим корпоративные праздники. Заработная плата выплачивается вовремя, к Новому году — всем подарки!

Поэтому мы не ищем сотрудников: они приходят к нам сами!

# СЛОНИМЧАНЕ ПОКОРИЛИ «НОВЫЕ ВЕРШИНЫ – 2020»




КОЛЛАЖ СЛОНИМСКОЙ ДЕТСКОЙ ШКОЛЫ ИСКУССТВ

**Воспитанники Слонимской детской школы искусств стали лауреатами и дипломантами VI Международного фестиваля-конкурса «Новые Вершины – 2020».**

Фестиваль проходил в Минске с 18 по 22 марта при поддержке Министерства культуры Республики Беларусь.

Конкурс ежегодно собирает более 5000 талантливых детей из разных стран — России, Украины, Беларуси, Молдовы, Словении, Польши — в различных видах искусства и является одним из самых сложных. В этом году участие проходило в заочной, очной форме, а также дистанционно.

Среди участников конкурса в этом году были и ученики Слонимской детской школы искусств, которые в очередной раз возвратились с победами.

В номинации «инструментальная музыка (соло)» лауреатом конкурса стала Елизавета Хуммал (учитель Эмма Воронович).

В номинации «академический вокал (соло)» юные слонимские исполнители завоевали два диплома лауреата III степени — Елена Снитко (учитель Наталья Куклицкая, концертмейстер Ульяна Мойсейчик) и Артём Ваниславчик (учитель Ольга Жегалик, концертмейстер Дарья Дожина).

В номинации «народный вокал (соло)» диплом III степени достался Валерии Рожко (учитель Ольга Жегалик), а диплом лауреата I степени — Анастасии Бортко (учитель Ольга Жегалик).

Памятными сертификатами награждены все учителя и концертмейстеры.

**Жанна ИВАНОВА**

# любовью к автомобилю!

У нас обслуживается ряд корпоративных клиентов: ТУП «Галактика-трейд плюс», УО «СГПТКСП», ЦСОН Слонимского района, государственное учреждение культуры «Слонимский драмтеатр», ООО «АКВАПАКИНДАСТРИАЛ», Слонимский филиал коммунального предприятия по обеспечению топливом «Гроднооблтопливо», СПК «Сынковичи», ОАО «Слонимский ремонтный завод», ОАО «Слонимская КПФ», Гродненский филиал РУП «Белсоюзпечать», НПК ООО «САТМЕН», КСУП «Дружба-Агро», ОАО «Сберегательный банк «Беларусбанк», СООО «СМУ СОЮЗТЕЛЕФОНСТРОЙ».

У нас вы можете приобрести новые запчасти с возможностью установить их на ваше авто.

Открывались мы в Слониме одними из первых. Занимались и занимаемся ремонтом любой сложности.

В этом году мы открыли в новом микрорайоне новый автосервис и пункт замены масла по адресу: пр-т Независимости, д. 41/25 в гаражном кооперативе «Заозерный». И теперь приглашаем всех автовладельцев на ремонт и замену масла в своих авто.

У нас вы сможете опробовать французский бренд MOTUL.

Больше никто в Слониме не использует данную марку.

Почему MOTUL?

Потому что это компания со своей историей, прошедшая путь от первой установки на заводе в Пенсильвании до современнейших инновационных лабораторий!

И только в нашем сервисе на пр-те Независимости имеется уникальная установка от MOTUL по полной замене масла в АКПП.

При покупке масла — замена БЕСПЛАТНО!

Дорогие автовладельцы, если вы заметили, что ваша АКПП начала дергаться и переключаться с запозданием, приезжайте к нам! Не пожалеете! Мы работаем, чтобы ваши автомобили жили!

В заключение Иван сказал, что «для корабля, не знающего своего направления, ни один ветер не будет попутным».

Елена с улыбкой добавила: «Если ваша машина сломалась, это не сигнал покупать новую... Просто она соскучилась по нам!»

В будущее ребята смотрят с оптимизмом, не ищут легких путей.

Известный миллиардер мудро сказал: «Не надо гнаться за деньгами, нужно идти им навстречу!»

Преодолевая на своем пути сложности, не падая духом, с горящими глазами команда «АтрисСервиса» движется только вперед и ждет автовладельцев по адресу:

Пр-т Независимости, 41/25
Ул. Гагарина, 37
Ул. Красноармейская, 73
Тел. +375(29) 940 51 23
+375 (29) 957 98 48
+375 (29) 940 51 23
+375 (29) 509 52 88
www.atrisservice.by
Instagram: romanovich363

Более подробную информацию о ЧСУП «АтрисСервис» смотрите на сайте: www.gs.by

ЧСУП «АТРИССЕРВИС»
УНП 590844709

**Жанна БУЛАВЧИК**

КОНКУРС

## ФОТОКОНКУРС «ВЕСНЫ ЛИКУЮЩЕЙ БЛАЖЕНСТВО»

**«Газета Слонимская» совместно со студией красоты «Жемчужина» проводит фотоконкурс — «Весны ликующей блаженство»**




Фото Татьяны Максименко

Главное условие конкурса — запечатлеть на фото и донести миру красоту окружающей живой природы, пробуждающейся жизни, весенних чувств и эмоций, где Вы — в унисон с весной

Мы ждём ваших фотографии до 30 марта.

Обязательно укажите Ваше ФИО и контактный телефон и сопроводите свои фото названием или коротким описанием.

Фотографии принимаем на электронный адрес gs@gs.by, viber 8 029 133-04-21, сообщением в соцсетях «ВКонтакте» или «Одноклассники».

31 марта наш спонсор и коллектив «ГС» определят победителя, имя которого будет опубликовано в «Газете Слонимской» 1 апреля 2020 г.

Приз — сертификат от студии красоты «Жемчужина» на 50 рублей.

**Юлия ТОЛКУН**

ВОЛЕЙБОЛ

## В СЛОНИМЕ ПЕРВЕНСТВО ГОРОДА ПО ВОЛЕЙБОЛУ ПРОХОДИТ ПРИ АКТИВНОЙ ПОДДЕРЖКЕ БОЛЕЛЬЩИКОВ



Зрители





Игра

**В пятницу, 20 марта, в ДЮСШ №1 Слонима завершилась первая неделя чемпионата города по волейболу среди мужских команд в программе круглогодичной спартакиады.**

Первенство города по волейболу среди мужских команд проходит при активной поддержке болельщиков и заполненных трибунах слонимской спортшколы. Эмоции переполняют как участников, так и пришедших поддержать их зрителей.

В группе «А» с тремя победами лидируют спортсмены в/ч 33933. За ними, одержав по две победы, разместились команды ГУП ЖКХ и Трансгаза. Они померяются силами между собой во встрече 26 марта в 18:40.

В группе «Б» без поражений выступают волейболисты из команд «Супер Стар» и «Слоним газ». Матч между ними состоится 25 марта в 19:20.

В пятницу, 20 марта, состоялись поединки среди команд, входящих в лидирующую группу чемпионата.

Слоним газ — СКБЗ — 2:0
Мясокомбинат — «Супер Стар» — 1:2
Трансгаз — в/ч 33933 — 0:2

**Сергей БУЗУН**
ФОТО АВТОРА

СЛОНИМЧАНЕ ЗА ГРАНИЦЕЙ

# СЛОНИМЧАНКА ДАРЬЯ ФУКС: «Америка — это страна больших возможностей, люди здесь не живут стереотипами»

**Слоничанка Дарья вот уже три года живет в США, в городе Ирвинге, штат Техас. Мы узнали у Дарьи, как ей живется на другом материке и скучает ли она по Беларуси.**



**— Даша, как ты попала в Америку?**

— Я попала в Америку, потому как вышла замуж за американца. Судьба, ничего более. Языковых барьеров изначально не было. Мой муж знает несколько языков, в том числе русский.

**— Твои первые впечатления об этой стране?**

— Их очень много. Я живу в Техасе, и это самый классный штат. Здесь очень приветливые люди, прекрасная природа, отличная еда и хороший климат. В целом по приезде я была в восторге от всего.

**—Чем занимаешься в Штатах? Расскажи о своей семье. Думала ли ты когда-нибудь, что будешь жить в Америке?**

— Я никогда не думала, что буду жить в Америке. Просто обстоятельства так сложились. Я студент North Lake College в моём городе. Учу углубленно английский язык, в том числе и деловой английский. Как и у всех студентов, у меня не хватает времени ни на что, благо мой колледж в 5 минутах от моего дома. Моя семья пока маленькая. Я, муж и наша собака. В этом году мы будем праздновать 5 лет нашего брака. Мой муж работает менеджером в компании по производству автомобильного софта, а я студентка. Работать пока не планирую. В будущем хочу создать свой бизнес. В планах открыть салон красоты или магазин свадебных платьев. Время покажет.



Семья Дарьи



С друзьями

**— Жизнь в Штатах очень отличается от жизни в Беларуси?**

— Конечно, жизнь в Америке динамичнее жизни в Беларуси. Много возможностей, но не все так просто. Если нет хорошего образования, стабильной работы и прочего, здесь делать нечего. Запомните, высшее образование, полученное, например, в Беларуси, в США не работает. Ваш диплом нужно будет легализовать, а для этого нужно иметь немало денег. Без знания языка здесь делать нечего. Да и английский, на котором говорят американцы, сильно отличается от английского, который преподают в школах Беларуси. Есть люди, которые стремятся попасть в США любыми способами, но в итоге возвращаются с разочарованием назад в свою страну. Все из-за того, что большинство выходцев из таких стран, как Украина, Беларусь, Россия, думают стереотипами, что по прилете в США их встретят с мешком денег, крутой машиной и всеми привилегиями. В итоге они разочаровываются, потому что все совсем не так. Да, в Америке много возможностей, но при этом ещё больше трудностей.

> Есть люди, которые стремятся попасть в США любыми способами, но в итоге возвращаются с разочарованием назад в свою страну. Все из-за того, что большинство выходцев из таких стран, как Украина, Беларусь, Россия, думают стереотипами, что по прилете в США их встретят с мешком денег, крутой машиной и всеми привилегиями.

**— В чем особенность этой страны?**

— Не знаю, как страны в целом, но здесь платная медицина, отсутствие бездомных животных на улицах, налог на все, кроме еды, всегда скидки в магазинах, возможность купить качественные вещи и еду, доступное получение водительских прав, дорогая, но качественная стоматология, безумно дорогое образование, много парков и мест для отдыха всей семьи, оружие можно купить/продать в магазине, много фитнес-центров, вся земля частная (свободно не погуляешь, где хочется), дорогая недвижимость. В Техасе нельзя собирать грибы и ягоды. За это штраф. Животные содержатся в приютах, как частных, так и государственных.

Здесь просто нереально вкусная еда. Я обожаю мексиканскую кухню. Также большинство американцев за ЗОЖ. Кстати, я не так часто вижу полных людей здесь.

Ещё одна черта американцев — вежливость и уважение твоего личного пространства. Никто здесь не задаёт вопросов о весе, детях, муже и прочем, что любят спрашивать люди в странах СНГ. В США это считается крайней степенью бестактности. Люди здесь не живут стереотипами. То же и в плане рождения детей — здесь это твоё личное дело: в каком возрасте, в каком количестве и от кого.

**— Чем американцы предпочитают заниматься дома в свободное время?**

— Я не знаю, чем обычно занимаются американцы в свободное время, но я предпочитаю отдых с книгой либо просмотр фильма с чайком и своей семьей. Мои знакомые предпочитают походы в кино, рестораны, а любят отдых на природе, рыбалку.

**— Скучаешь по дому, родным?**

— Это абстрактный вопрос для меня. Я скучаю только по моей семье, которая осталась в Беларуси. У меня в Слониме живут моя любимая мама, моя тетя, двоюродная сестра и брат. К сожалению, моя бабушка умерла два года назад. Также скучаю по моей подруге Александре из города Горки. В будущем моя мама переедет ко мне тоже на постоянное место жительства, так как уже скоро я получу паспорт США и стану гражданином этой страны. Я думаю только о позитивных вещах, это делает меня сильной и даёт мне уверенность. Что я могу позволить себе в Америке? Многое: образование, водительские права, работу мечты в будущем, огромное количество друзей из разных стран, интересные знакомства, возможность помочь своей маме.

**— Что пожелаешь своим землякам?**

— Быть мечтателями. Мечтать о невозможном, думать позитивно, быть сильными, несмотря ни на что, следовать своим целям и планам, самосовершенствоваться, быть терпимыми к окружающим, уметь прощать обиды. Доброта спасёт мир! Всем добра!

**Евгений ВОЛОДАЩУК**

ФОТО ИЗ ЛИЧНОГО АРХИВА ДАРЬИ ФУКС

ШЛЯХ ДА БОГА

# Я б у семінарыю пайшоў...



Мінская духоўная семінарыя ў Жыровічах

ПАЧАТАК №11

У сераду і пятніцу, вечарам у суботу і ў нядзелю раніцай, а таксама напярэдадні і ў сам дзень вялікага царкоўнага свята Трох Святіцеляў у семінарскім храме здзяйсняюцца ўрачыстыя богаслужэнні.

Прысутнасць усіх студэнтаў у царкве строга абавязковае, правяраюць ледзь не па спісе. Любое спазненне ў семінарыі караецца пісьмовым «тлумачэннем». Калі іх некалькі, то за студэнтам пачынаюць пільна сачыць. Вынікам стане адлічэнне з установы.

Сілкаванне ў семінарыстаў чатырохразовае.

Пасты выконваюцца так, як іх усталявала царква. У дні першай і апошняй сядміцы Велікоднага посту ежа не адрозніваецца вытанчанай разнастайнасцю. Паласавацца бульбачкай у мундзірах, вараным буракам і квашанай капустай можна адзін раз у дзень.

Кожны семінарыст мае сваё паслушэнства: ад нясення вахцёрскай службы і прыбірання рукамыйніц да рэдакцыйнай службы. Што да вольнага часу, то яго практычна няма. Калі ж атрымліваецца ўлавіць вольнае імгненне, студэнты праводзяць яго на стадыёне, у арганізаваных вылазках на прыроду альбо спяць.

Дадому па прашэнні атрымліваецца з`ездзіць вельмі рэдка, два-тры разы на год. На кожную паездку трэба пісаць прашэнні на імя рэктара. Былі часы, што прашэнне пісаць патрабавалася нават на паездку ў Слонім, каб памыцца ў грамадскай лазні. Частыя раз`езды не вельмі вітаюцца кіраўніцтвам.

Пераступаючы перашкоды на шляху да паступлення ў Мінскую духоўную семінарыю, абітурыент павінен добра ўзважыць свае сілы і адказаць сам сабе на пытанне, з якой мэтай ён хоча стаць навучэнцам гэтай установы. Што кіруе жаданнем — прага славалюбства, жаданне «лёгкіх» грошай ці шчырае жаданне служыць людзям, ахвяруючы сабой, несучы з сабой вобраз сапраўднага Пастыраначальніка Ісуса Хрыста?

Святар — гэта асоба, якая заўсёды знаходзіцца на судзе сваёй паствы. Добра, калі ён спраўляецца і на працягу жыцця здольны ўдала сумяшчаць служэнне пастве і сваёй сям`і. А калі не? Адваротнага шляху для пастыра не існуе, і любая памылка ў яго жыцці можа стаць фатальнай.

Выбар прафесіі і вучэбнай установы — гэта заўсёды стрэс як для самога абітурыента, так і для яго бацькоў. У тыя хвіліны, калі перахоплівае дыханне і зямля сыходзіць з-пад ног, лепш за ўсё маліцца Госпаду Ісусу Хрысту, Найсвяцейшай Дзеве Марыі і ўсім святым, а Яны, чуючы сардэчны заклік, адгукнуцца на яго, калі малітва будзе падмацаваная верай.

Што патрабуецца ад абітурыента пры паступленні ў семінарыю?

Перш за ўсё, чалавек павінен быць праваслаўнага веравызнання, да 35 гадоў, халасты або жанаты першым шлюбам, мець як мінімум сярэднюю агульную адукацыю. Патрэбна медыцынская даведка, дзве фатаграфіі 3x4, пасведчанні аб нараджэнні і хрышчэнні, пашпарт і вайсковы білет, даведка аб сямейным становішчы, арыгіналы сертыфіката аб праходжанні дзяржаўнага тэсціравання па рускай (беларускай) мове і гісторыі Беларусі. Дакументы прымаюцца з 1 да 31 ліпеня ў канцылярыі Мінскай духоўнай семінарыі.

Акрамя прыведзенага спісу, неабходна падаць аўтабіяграфію, рэкамендацыю прыхадскога святара ў пісьмовым выглядзе, засведчаную пячаткай прыхадской абшчыны. Асабліва важным дакументам з`яўляецца пісьмовае благаславенне епархіяльнага архірэя. Каб яго атрымаць, абітурыент паказвае веды на ўнутрыепархіяльных іспытах.

Выпрабаванні па Біблейскай гісторыі Старога і Новага Запавету, Катэхізісе, Царкоўнай гісторыі, Царкоўным уставе, веданні малітваў, трапароў (у тым ліку свайму святому), валоданні музычнымі і галасавымі дадзенымі, чытанні Псалтыра звычайна праводзіць сакратар Навагрудскай епархіі ў прысутнасці сваіх памочнікаў.

**Максім СУДЗІЛОЎСКІ**

## Афиша

**Слонимский драмтеатр**

**29 марта, воскресенье**

Для детей премьера спектакля «Опасная сказка». Начало в 12.00. Цена 4 руб.

Для дарослых паказ з нагоды 30-годдзя тэатра «З юбілеем, наш любы тэатр!». Пачатак у 17.00. Кошт 6 руб.

**Слонимский центр культуры**

**Кинозал**

**25 марта, среда**

12.00, 16.00 «Тролли. Мировой тур» 3D (США, 6+, мультфильм, 1.30)

14.00 «Вперёд» 3D (США, 6+, мультфильм, 1.42)

18.00, 20.00 «Бладшот» 2D (США, 16+, фантастика, 1.49)

**26 марта, четверг**

12.00, 14.00 «Тролли. Мировой тур» 3D (США, 6+, мультфильм, 1.30)

16.00 «Бладшот» 2D (США, 16+, фантастика, 1.49)

18.00, 20.00 «Отдай свою душу» 2D (ЮАР, 18+, ужасы, 1.45)

**27 марта, пятница**

12.00, 14.00 «Тролли. Мировой тур» 3D (США, 6+, мультфильм, 1.30)

16.00 «Бладшот» 2D (США, 16+, фантастика, 1.49)

18.00, 20.00 «Отдай свою душу» 2D (ЮАР, 18+, ужасы, 1.45)

**28 марта, суббота**

12.00, 14.00 «Тролли. Мировой тур» 3D (США, 6+, мультфильм, 1.30)

16.00 «Бладшот» 2D (США, 16+, фантастика, 1.49)

18.00, 20.00 «Отдай свою душу» 2D (ЮАР, 18+, ужасы, 1.45)

**29 марта, воскресенье**

12.00, 14.00 «Тролли. Мировой тур» 3D (США, 6+, мультфильм, 1.30)

16.00 «Бладшот» 2D (США, 16+, фантастика, 1.49)

18.00, 20.00 «Отдай свою душу» 2D (ЮАР, 18+, ужасы, 1.45)

# Хітрая

Адэлю Клюковіч з Малых Біцянятаў ніхто не называў ні па імені, ні па прозвішчы. Усё Хітрая ды Хітрая. Проста не магла, каб не падмануць каго-небудзь з вяскоўцаў, ці, іншымі словамі, абвесці вакол пальца. Жыла яна адна, да пяцідзесяці гадоў не стварыла сям`і, не нарадзіла дзіцятка. Так, прынамсі, думалі ў вёсцы. І таксама ўсё з-за хітрасці ды сквапнасці. У маладосці здараліся хлопцы, што былі не супраць узяць замуж, але дзе там!

— Чула, што да цябе на мінулым тыдні сватаўся Лявон Карутка, — сказала аднойчы стрыечная сястра Клаўдзя Журонак.

— Ну дык і што?

— Нічога... Мо замуж пойдзеш? Бо хто надта цябе потым схопіць, такую тоўстую ды рабую?

— Ага, зараз усё кіну і пабягу за яго замуж! Гэнага Лявона не ўкорміш, каб і хацеў, бо гэтакі худы! І вопратка ды абутак рвуцца на ім проста на вачах. А гэта ж усё, мая ты галубка, грошы.

— Ну і няхай! Твой заробак з фермы ды яго шаферскі... Хіба не пражывяце?

— Што ты мяне сватаеш?! Хочаш, то сабе бяры гэнага Карутку. Акрамя ўсяго іншага, ён і гультай, якіх свет не бачыў. Не хапала мне на галаву гуза!

Усе ў яе былі не такія ды не гэтакія. Адзін шмат еў, другі любіў на канапе валяцца, трэці на старонніх баб пазіраў.

— Ну іх усіх к чорту! — прыйшла да высновы Адэля. — Адной лепш, з якога боку ні паглядзі.

Калі разменяла сёмы дзясятак і ў вёсцы стала цяжка спраўляцца з гаспадаркай, яна купіла ў маленькім гарадку кватэру. Каб лягчэй жылося, каб ні плот не рамантаваць, ні дровы не нарыхтоўваць ды на карову не сенаваць. Словам, збыла гаспадарку і пераехала, стала гараджанкай. Але ж праўду кажуць: можна вывезці кабету з вёскі, але нельга вывесці вёску з кабеты.

Так і тут. Апранался яна па-вясковаму проста, вясной рабіла завіўку і ў самую гарачыню насіла хустку.

Ды тут нечакана лёс павярнуўся да Адэлі другім бокам. Яе праз інтэрнэт знайшла дачка Зіна, якую некалі ў тайне ад усіх пакінула ў радзільным доме. Нарадзіла і пакінула, бо з-за скупасці не хацела траціць грошы, каб гадаваць. Пра мацярынскае пачуццё, якое ў іншых жанчын з`яўляецца яшчэ задоўга да нараджэння дзіцяткі, тут гаварыць не прыходзіцца. Яго не было нават у зародку. Словам, кінула немаўлятка і забылася. Думала, назаўсёды. Ды памылілася.


МАЛЮНАК ЯЎГЕНА ІВАНОВА

Дзяўчынка, як падрасла, пачала жвавенька шукаць маманю і, дзякуючы інтэрнэту, знайшла. Хоць і не адразу.

Аднойчы летнім адвячоркам, калі старыя бабы сядзелі на лавачцы ля пад`езду, да іх падышло боскае стварэнне жаночага полу. Валасы на галаве былі пафарбаваны ў зялёна-ружовы колер, сінія джынсы настолькі парваныя, што, здавалася, як і трымаліся на худой постаці. Аблезлая расцягнутая майка вісела як на кале.

Выплюнуўшы з роту жвачку, што была раздута вялікім пухіром, дзяўчына прытаптала яе дзіравай красоўкай і спытала:

— Эй, чарапы, ці тут жыве Адэля Клюковіч з Малых Біцянят? Казалі, што тут яна купіла кватэру...

— А чаму пытаеш? Навошта табе гэна Адэля? — бабка Захарыха была вельмі цікаўная.

— Пытаю таму, што гэна мая матка. Кінула мяне, зараза, у радзільным доме, каб яе аб асфальт кідала ды падымала. Думала, схаваецца, спадзявалася, што ніколі не знайду. Ды знайду, хоць з-пад зямлі дастану і прымушу сплаціць мне за ўсе гады, што блукала па свеце як Марка па пекле...

— Тут Адэля, на другім паверсе жыве, — падказала Захарыха.

— Але, на другім. Ты ж, пэўна, не ведаеш, яна замуж выйшла за старога Казіка, што жыве на адной пляцоўцы, — паведаміла гаваркая Міра Сочка. — Мядовы месяц цяпер у іх...

— Мядовы? То будзе ім гарчычны, няхай толькі дабяруся! Я ім пакажу, як трэба жыць на свеце, я ўжо іх праўчу! — паабяцала Зінка. — Заплацяць мне за ўсё!

— Наўрад ці, галубка, бо твая матка вельмі хітрая, у яе зімой снегу не выпрасіш. Як толькі пажаніліся, то Казік ёй абнованакупляў цэлы пакет, а сам як хадзіў у падраных портках, так і цяпер ходзіць.

— Хітры Дзмітрый, ды і Саўка не дурак, — скрывілася як ад журавін Зінка. — Вытрасу з гэнай мамкі не толькі грошы, але і душу, калі па-добраму не згодзіцца.

Зінка пасунулася ў пад`езд, а бабы на лаўцы спынілі размовы і навастрылі вушы, бо чакалі, як жа Адэля сустрэне дачку, якая, відаць, ні ў чым не саступала мамцы.

— Плаці за змарнаванае дзяцінства і юнацтва, карга старая! — пачулася з другога паверха. — Прыбяры як Анжаліну Джалі, бо ў мяне, акрамя гэтых рваных джынсаў, нічога няма! І ўсё па тваёй міласці!

— Узяла-такі дачка Хітрую ў абароты! — усміхаючыся бяззубым ротам, мовіла бабка Захарыха. — Гэта ёй не з Казіка здзекавацца.

Не паспелі бабы абмеркаваць навіну, як, на друзачкі разбіўшы акно, на двор вылецела табурэтка.

— Няхай толькі не аддасі грошай, то паляціш следам! — паабяцала Зінка.

— Дам, дам, каб табе дыхнуць не дало! — пісклявым голасам крычала Хітрая. — Бяры ўсё, што маю. Заўтра пенсію атрымаю, то яшчэ дам.

— Заўтра само сабой, а мне сёння трэба! Ідзі вунь да чарапоў, што сядзяць ля пад`езда на лаўцы, няхай пазычаць. Потым аддасі. Я ведаю, што ў цябе грошай нямерана, толькі ў банку на рахунку ляжаць.

Хітрая выскачыла да бабаў. Пад вокам быў чырвоны пісяг, шчака распухла.

— Бабы, не дайце загінуць! Заб`е, каб яе пярун забіў! Нясіце хто колькі можа, заўтра ўсе даўгі пааддаю.

Старыя пашаркалі па сваіх кватэрах, прынеслі хто колькі мог. Ці хацеў.

Праз якой паўгадзіны Зінка выкулілася з пад`езда. Непадалёку ў машыне яе чакалі нейкія хлопцы.

Тым часам з работы ішоў Казік. Бабы расказалі яму ўсё да драбніц. Нагналі такога страху, што ён пайшоў начаваць да брата, а назаўтра падаў Хітрую на развод, пакінуўшы яе на волю лёсу і Зінкі, якая, падобна на тое, будзе штодзень спаганяць з маткі грошы за гаротнае дзяцінства, пакуль не вымантажыць усё да рубельчыка. І хітрасць старой ужо не паможа...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Главный редактор Николай Николаевич Кононович

Учредитель Анна Павловна ВОЛОДАЩУК

Телефоны редакции: Velcom: 8-029-133-04-21 факс: 8 (01562) 2-90-00 звонить с 9.00 до 18.00 Skype — gazslon

ГАЗЕТА ВЫХОДИТ НА РУССКОМ И БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКАХ

Для корреспонденции: 231799, г. Слоним, ул. Красноармейская, д.41 Юридический адрес: г. Слоним, ул. Красноармейская, 41

Регистрационное удостоверение №65 от 05.03.2009 года выдано Министерством информации Республики Беларусь. Свидетельство о госрегистрации УП "Газета Слонимская" ЮКЛ № 001845, выданное Гродненским областным исполнительным комитетом от 03.04.2003 г.

Авторы опубликованных материалов отвечают лично за подбор и достоверность фактов, их точка зрения может не совпадать с мнением редакции. Редакция не ведет переписки с читателями и оставляет за собой право не рецензировать и не возвращать рукописи. Редакция не несёт ответственности за содержание рекламы.

Свободная цена

Тираж номера 3010 экз.

Время подписания к печати по графику 24 марта 2020 года 17:00

РЕКЛАМНАЯ СЛУЖБА 8(044) 715-90-03 8(044) 762-48-39; 8(044) 715-90-03 ул. Красноармейская, 41 e-mail: gs@gs.by, gazslon@gmail.com

Объем — два условных печатных листа. Газета отпечатана в ГОУПП "Гродненская типография", Гродно, ул. Полиграфистов, 4. индекс 230025 ЛП №02330/39 от 27.03.2014 Заказ № 1547

Распространяется с газетой "Газета Слонимская" по подписке и в розницу по Республике Беларусь

ISSN 1991-3362




